

# Вестці й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 10(656)**
**Кастрычнік 2020 г.**


## Адраджэньне

*Зянон ПАЗЬНЯК*



У 1994 годзе, калі маскоўская агентура ва ўладзе і прамаскоўская камуністычная намэнклятура праціснулі праз савецкі электарат свайго стаўленьніка на прэзыдэнцкі пасад у Беларусі, то першым дзеяньнем акупацыйнай палітыкі антынароднага рэжыму стала ліквідацыя дзяржаўных беларускіх сымбаляў і дзяржаўнага ўжываньня беларускай мовы, якая была асуджана, фактычна, на забарону. Потым была ліквідавана беларуская школа, спаленыя беларускія падручнікі для школы, ліквідаваныя беларускія выдавецтвы, газэты; радыё і тэлебачаньне пераведзеныя на акупацыйную мову. Так адбывалася ўнутранная акупацыя Беларусі.

Потым пачаліся рэпрэсіі і забойствы беларускіх палітыкаў, ліквідавана законная Канстытуцыя, зьнішчаная ўсходняя мяжа, забіты старшыня Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і створана фальсыфікацыйная сыстэма выбараў. Разбурана палітычная аснова беларускага Адраджэньня – нацыянальна-дэмакратычны рух Беларускі Народны Фронт. Так была разгромлена беларуская свабода і краіна пагрузілася ў ноч антыбеларускага фашызму.

Праз 26 гадоў людзі, нарэшце, расплюшчылі вочы, калі пачалася эпідэмія каранавірусу Ковід-19, і ўзурпатар стаў адкрыта пляваць народу ў твар, зьдзекуючыся зь людзей і ня дбаючы пра іх ратаваньне ад каронавіруснай сьмерці.

Чашу цярпеньня перапоўніла нахабная фальсыфікацыя выбараў і прызначэньне сябе кіраўнікам дзяржавы. Народ выйшаў на вуліцы і плошчы. І першае, што зрабілі беларусы, гэта вярнулі ў грамадзкае жыцьцё беларускія нацыянальныя сымбалі – Сьцяг і Гэрб.

Гісторыя ў каторы раз пацьвярджае, якое вялікае значэньне маюць для нацыянальнага існаваньня і нацыянальнага адраджэньня гістарычныя сымбалі нацыі. Тое, з чаго лукафашызм пачаў зьнішчэньне свабоды народа, тое найперш узьнялося цяпер, калі зноў пачалося беларускае адраджэньне на шляху да свабоды.

Наступным крокам адраджэньня ў барацьбе з фашызмам павінна стаць мова – наша вялікая прыгожая Беларуская Мова. За 26 гадоў разбурэньня нацыі рэжым русіфікаваў моўнае асяродзьдзе і дзяржаўныя камунікацыі. Але людзі ведаюць, што яны беларусы і што мова іх ёсьць беларуская. Цяпер трэба спрыяць яе адраджэньню, пашырэньню, падтрымліваць моладзь, якая імкнецца да сваёй мовы, патрабаваць беларускай школы, шанаваць усё сваё беларускае, сьветлае, высокае і сьвятое.

Паступова беларусы вернуць сабе сваю мову, і раптам тады зразумеюць, што наша мова – гэта ёсьць наша найвялікшая зброя ў абароне волі, свабоды, незалежнасьці, эканомікі і культуры, і ўсіх нас у гэтай любімай нашай краіне на гэтай любімай нашай зямлі.

*26 верасень 2020 г.*

## Трыбунал

*Зянон ПАЗЬНЯК*

17-га верасьня рэжым сабраў у Менску форум жанчын з бюджэтных арганізацыяў, каб прадэманстраваць падтрымку існуючай уладзе і асобе Лукашэнкі. На форуме выступіў Лукашэнка.

Я паглядзеў на ягоныя паводзіны і праслухаў, што і як ён гаворыць. Мушу сказаць, што гэта ўжо ня сьмешна. Чалавек нездаровы і жыве ў стане вайны, якая, як яму здаецца, вось-вось пачнецца. Тут ня гульні і не прапаганда прыдуманай нерэальнасьці, якую беларусы бачаць па расейскім тэлебачаньні. Тут усё небясьпечнае, бо маніякальнае, і нясе пагрозу ўсёй нацыі.

Для чалавека, які церпіць на псыхічныя адхіленьні, рэальнасьцю зьяўляецца яго ўнутраны сьвет, яго ўнутранныя ўяўленьні, трывогі і страхі. Згодна гэтых уяўленьняў ён дзейнічае і прымае рашэньне.

Калі Лукашэнка распавядае, як ён ляцеў на верталёце над масамі дэманстрантаў, і як амэрыканцы, "сволачы", з космасу заўважылі ягоны верталёт і тут жа перадалі ў "цэнтар дыверсіі" пад Варшаву, а адтуль пастуліла каманда ў Менск да дэманстрантаў, і "они разбежались, как крысы", то тут відаць тыповае праяўленьне псыхічнай нездаровасьці. Ён верыць у тое, што кажа. Гэта ёсьць ягоная рэальнасьць. Такая ж, як рэальнасьць пацыента, у якога крадуць з прыёмніка радыёхвалі, цяпло з батарэі ці скануюць праз электрычную лямпачку.

Над усім гэтым людзі сьмяюцца. Гумарыстам весела. Такое назіраецца ўжо 26 гадоў. Выдадзеныя зборнікі ягонай неадэкватнасьці і бескультур'я, выказваньняў з нерэальнага сьвету.

Але пад уплывам зацыкленых уяўленьняў ён забіў сваіх часовых паплечнікаў, адправіў на той сьвет супернікаў і апанентаў, расстраляў нявінных людзей, каб схаваць тэракт у мэтро, тысячы беларусаў кінутыя ў турмы з-за ягонай помсты і за непадпарадкаваньне ягоным уяўленьням і крымінальным патрэбам, забітыя мірныя дэманстранты, пакалечаныя і сталі інвалідамі сотні людзей.

Усё гэта ўнутраныя дзяржаўныя крымінальныя злачынствы, распаўсюджаныя ў грамадзтве таталітарным самаўладзьдзем.

Цяпер паталёгія пашырылася, выйшла за межы, набыла небясьпечныя рысы для ўсіх, у тым ліку для яго самога і для ягонага асяродзьдзя. Узурпатар пачаў вайну з народам, і ў намерах – з суседзямі, з усім сьветам. Паўтараю, ён рэальна верыць, што ўжо йдзе вайна, і што суседзі з НАТО рыхтуюцца напасьці на Беларусь, разарваць яе на кавалкі, адабраць ад яго краіну, якую ён прыватызаваў. Ён жыве ў гэтай сваёй уяўнай рэальнасьці і пастаянна гістэрычна пра тое гаворыць.

Вось цытаты з выступу 17 верасьня.

Аб галасаваньні на выбарах:

– "Я вам клянуся, ніякой хлусьні на выбарах не было."

Пра вячэрнюю дэманстрацыю выбаршчыкаў 9-га жніўня і забойства амонаўцамі людзей:

– "Амонаўцы ўратавалі краіну і сарвалі бліцкрыг".

***заканчэньне на бачыне 2***

# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 12 верасьня, у Нью-Ёрку адбыўся першы пасьля пачатку сёлетняй пандэміі карона-вірусу сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Сход прайшоў на прыродзе ў Цэнтральным парку на Мангэтане. Нажаль, колькасьць удзельнікаў была надзвычай малая, што тлумачыцца, з аднаго боку, працягам пандэміі, а з другога – актыўнай мітынгавай дзейнасьцю беларускай грамады Нью-Ёрку і ваколіцаў. Выглядае, што пэўная насычанасьць пратэстнымі акцыямі ўскосна закранула таксама і справу аднаўленьня сходаў Згуртаваньня “Пагоня”.

Прысутныя на сходзе абмяняліся думкамі пра падзеі ў Беларусі й пра дзейнасьць беларускай грамады ў ЗША па падтрымцы братоў і сёстраў на Бацькаўшчыне, што цяпер падняліся супраць дыктатуры Лукашэнкі, якая ужо 26 год пануе й чортам творыць, як той казаў, у Беларусі. Было выказана спадзяваньне, што з адкрыцьцём у канцы месяца верасьня школаў у Нью-Ёрку паступова будуць адчыняцца ўсе іншыя ўстановы, і што Згуртаваньне “Пагоня” зможа правесьці свой чарговы, кастрычніцкі, сход у звыклым месцы – у Доме Маракоў на Мангэтане.

Усе паведамленьні пра наступныя сходы трэба шукаць у “Вестках і Паведамленьнях” або на старонцы Згуртаваньня “Пагоня” ў Фэйсбуку.

***Віталь ЗАЙКА***

## Трыбунал

***заканчэньне з бачыны 1***

– “Калі ім (гэта зн. людзям на дэманстрацыі і “закулісе”) не ўдалося захапіць уладу сходу, зьмяць сталіцу, падняць усю краіну, тады была прыдумана мэтадычка...”

Пра пагрозы ад суседніх дзяржаваў НАТО (тут цытую ў арыгінале):

– “Мы не знаем, что они выбросят дальше. Мы понимаем, что в их арсенале осталось совсем немного приемов, прежде чем развязать горячую войну. Поэтому мы вынуждены отвести войска с улиц, как я уже говорил, пол-армии поставить под ружье и закрыть государственную границу с Запада, прежде всего с Литвой и Польшей.”

– “Хочу обратиться к народам Литвы, Польши и Украины: остановите своих безумных политиков, не дайте развязаться войне!”

Апошні выкрык (хто ня ведае ў чым справа) можа агаломшыць любога. Небясьпека якраз у тым, што гэтыя ягоныя ўяўленьні рэалізоўваюцца, бо пацыент валодае неабмежаванай уладай над людзьмі. Улада робіць яго сацыяльна небясьпечным для ўсёй нацыі, для Беларусі ў цэлым.

Нядаўна ён раззлаваўся на Летуву і самадурна прыстрашыў, што адмовіцца ад транзіту з Балтыкі празь Летуву і перанакіруе гандлёвыя плыні праз Расею, пазбавіўшы такім чынам суседзяў іхняга прыбытку ад транзіту. Але яшчэ большыя страты будуць для Беларусі. Плаціць за транзіт праз Расею даражэй, ня кажучы пра іншыя вялікія выдаткі.

Для Расеі, вядома, гэта падарунак і выгада. Толькі Расея, хутчэй за ўсё, Лукашэнку на тое і намовіла, ведаючы пра ягоны “бзік” падрыхтоўкі да вайны. Вось ён і рыхтуецца, каб, у выпадку вайны з НАТО і нападу на Беларусь зь Летувы, ня страціць стратэгічна важны транзіт.

А ўвогуле, тут мы назіраем тыповую расейскую тактыку падрыхтоўкі агрэсіі. Успомнім, напрыклад, падрыхтоўку нападу на Фінляндыю ў 1939 годзе. Савецкія газэты і радыё трубілі аб тым, што Фінляндыя рыхтуецца напасьці на СССР, што фіны робяць правакацыі супраць “краіны саветаў”, дывэрсіі, прапаганду, шпіёнскую выведку і г. д. Неўзабаве саветы напалі на Фінляндыю.

Расейскія палітолягі, ацэньваючы нашую мірную рэвалюцыю, сказалі: “Усё. Беларусы ўратавалі Эўропу. Пуцін у Беларусь ужо не палезе, і вайны ня будзе.”

Вельмі скарапальныя высновы, аднак. Адпачне, ачомаецца і палезе. Прырода такая. Акрамя таго, ёсьць Лукашэнка – яму з Масквы скажуць, дык ён і страляць пачне. І будзе адстрэльвацца нават тады, як ён сказаў, калі застанецца “зусім адзін”. Пры ўсёй ягонай трусьлівасьці, Лукашэнка ўжо ня першы раз заяўляе, што гатовы на сьмерць “за краіну” і за ўсё, што “стварыў”. Ён у тое верыць. Ён гатовы заплакаць ад крыўды, што можа страціць пасаду і ад страху, што прыдзецца адказваць за забойствы людзей.

У гіблае вар’яцкае балота трапілі беларусы, дзе ўжо амаль кожны разумее, што трэба як найхутчэй вылезьці з гэтай багны, пакуль ні патопяць усіх з галавой. Пацыент ужо заявіў пра “закрыцьцё межаў”, зьбіраецца ліквідаваць партыі, потым зьнішчыць друк, лічбава-электронную эканоміку, схапіць усіх падазроных і нязгодных і г. д. Ён знаходзіцца ў стане ўзбуджэньня і страху, самыя неадэкватныя намеры можа пачаць рэалізоўваць.

Тут паўтараю ўжо сказанае.

Першым чынам мусіць быць ліквідаваная ўлада Лукашэнкі і прысутнасьць яго ва ўладзе. Гэта ёсьць патрабаваньне рэвалюцыі. Без адхіленьня Лукашэнкі ад улады ніякія дзеяньні немагчымыя і ня маюць сэнсу. Тым больш, што ні пры якіх абставінах Лукашэнка уладу не аддасьць, бо ён замазаны ў злачынствах і ў крыві. Страта ўлады для яго – гэта турма і пакараньне. (Наіўным асобам трэба забыцца пра словы трансфэр улады, дыялёг, перамовы і т. п. Магчымы толькі арышт злачынцы).

Дэмакратычныя мэтады зьмены ўлады ў Беларусі задзейнічаць немагчыма, бо яны тут не прыдатныя і да таго ж іх у краіне не існуе. Усе спробы будуць задушаныя, а людзі рэпрэсаваныя і нават зьнішчаныя. У такім разе застаецца рэвалюцыя і рэвалюцыйныя прынцыпы. А гэта значыць, што любыя мэтады рэвалюцыі будуць лічыцца выкананымі ў сфэры канстытуцыйнага права, калі існуе жыцьцёвая небясьпека для ўсіх людзей, для народа, нацыі і дзяржавы, і калі ліквідаваныя законныя магчымасьці зьмены ўлады, калі пануе беззаконьне і валюнтарызм.

Рэальна ў гэтых умовах існуюць дзьве магчымасьці пазбаўленьня ад небясьпечнага ўзурпатара. Арышт і фізычная ліквідацыя па прыгавору суда. (Змова і закалат унутры хунты, практычна, выключаюцца.)

Паўтаруся, што ва ўмовах надзвычайнай небясьпекі для нацыі і для краіны і ва ўмовах праўнай безвыходнасьці для пераменаў, фізычная ліквідацыя ўзурпатара з прымяненьнем і выкарыстаньнем рэвалюцыйнага права ёсьць апраўданым канстытуцыйным дзеяньнем. Гэта выключны мэтад. Ён існуе ў арсенале рэвалюцыі і народнага права.

Для рэалізацыі канстытуцыйнага народнага права рэвалюцыі мусіць быць створаны Народны Трыбунал. Хутчэй за ўсё, беларусы яго створаць за мяжой. (Тут іх мільёны.) Трыбунал мусіць разглядзець ступень віны Лукашэнкі і вынесе карны вэрдыкт. Выкананьне вэрдыкту – гэта будзе асобнае дзеяньне.

Дыягназ мазаічнай псыхапатыі не вызваляе пацыента ад суду. Такія людзі лічацца ўсьвядомленымі, яны разумеюць сэнс сваіх учынкаў, нават пры псыхічным адхіленьні.

Пытаньні, якія тут пастаўлены, абмеркаваныя ў Беларускім Нацыянальным Сакратарыяце. Патрэбна праца па фактален̆гіі і сыстэматызацыі злачынстваў узурпатара. Часткова яно ўжо зроблена энтузіястамі ў Беларусі. У любым выпадку Народны Трыбунал (і таксама – Народны абвінаваўца) мусяць быць створаныя, і падставы для гэтага ёсьць.

*21 верасень 2020 г.*

## Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Рыгор Крушына - паэт, крытык і грамадзкі дзеяч

Рыгор Крушына (сапраўднае імя Рыгор Казак) – беларускі паэт, празаік і крытык. Як празаік ён выступаў пад псэўдонімам Кастусь Рамановіч. Нарадзіўся ён у 1907 годзе ў Вільні. Паходзіў зь сям'і паштовага служачага, і дзяцінства ягонае праходзіла ў Вільні й на Случчыне ў вёсцы Еўлічы.

Падчас Першай сусьветай вайны сям'я выехала ў бежанства ў Расею, па вайне вярнулася на Случчыну. Рыгор вучыўся на агульнаадукацыйных курсах у Слуцку, быў актывістам гуртка беларусазнаўства. У 1925 годзе Рыгор са сваім малодшым братам быў арыштаваны па справе Юркі Лістапада і Слуцкіх паўстанцаў. Затым будучы паэт вучыўся ў Менскім Белпэдтэхнікуме, што быў кузьняй "нацдэмаўскіх" культурніцкіх дзеячоў-патрыётаў. Там Рыгор Крушына пачаў пісаць і выдаваць вершы. Пасьля вучыўся ў пэдінстытуце, быў сябрам літаратурнага аб'еднаньня "Маладняк". Затым падчас перасьледу "нацдэмаў" пераехаў у Маскву, скончыў Маскоўскі інстытут кінематаграфіі.

Да вайны Рыгор Крушына выдаў два зборнікі вершаў: "Разгон"(у суаўтарстве), "Паэзія чырвонаармейца", і падрыхтаваў трэці зборнік – "Шкумат пачуцьця". Творчасьць ягоная раньняга пэрыяду прасякнутая "пралетарскімі матывамі", але і за імі праступае клопат пра родную зямлю, пра Беларусь.

Падчас Другой сусьветнай вайны й нямецкай акупацыі Рыгор Крушына жыў у Менску, друкаваўся ў "Беларускай газэце", "Беларускім работніку", "Раніцы". У 1944 годзе Крушына выехаў на Захад, жыў у Нямеччыне і пасьля перабраўся ў Злучаныя Штаты.

Знаходзячыся ў Вольным Сьвеце, Рыгор Крушына перагледзеў сваю раньнюю творчасьць і адкінуў догмы савецкай літаратуры 1930-40-х гадоў. Ён стаў экспэрымэнтатарам паэзіі, выйшаў на прастор вольнага нецэнзураванага мастацтва, дзе нязмушана гучалі самыя разнастайныя формы, тэмы, матывы. За часы творчай працы на эміграцыі Рыгор Крушна выдаў ажно сем паэтычных зборнікаў: "Лебедзь чорная", "Выбраныя творы", "Вячорная лірыка", "Хвіліна роздуму", "Вясна ўвосень", "Дарогі", "Сны і мары". Акрамя гэтага, з-пад пяра Рыгора Крушыны выйшлі шэсць цікавых паэмаў: "Пэрсыдзкая легенда", "Песьня песьняў Салямона", "Эротава іскрынка", "Кантата самотных", "Паэма пра вусны", "На руінах пачуцьцяў".



Рыгор Крушына займаўся таксама форма-творчасьцю і ўпершыню ўвёў у беларускую літаратуру гэткія кшталты вершу як канцона, газэль, паліндром, японская танка. Ён пісаў трыялеты, санэты, тэрцыны, рандо, актавы, – працягваючы творчую паэтычную справу, распачатую яшчэ Максімам Багдановічам, Уладзімерам Дубоўкам, Язэпам Пушчам. Як празаік, Рыгор Крушына напісаў апавяданьне "Чорныя дразды", успаміны "Вогнішча", "Пагібель праз жарты" і нарысы "Шумавіньне", "Паэзія геолягаў" – пра лёсы рэпрэсаваных беларускіх аўтараў. Таксама ў друку выйшлі ягоныя крытычныя артыкулы "Барыс Мікуліч", "Паўлюк Шукайла", "Сымон Будны".

У 1950-1960-я гады Рыгор Крушына працаваў у беларускай рэдакцыі радыёстанцыі "Свабода" ў Мюнхэне, актыўна займаўся грамадзкай і рэдактарскай дзейнасьцю. Крушына быў адным з заснавальнікаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНіМ, 1951). Пэўны час ён зьяўляўся адзіным прадстаўніком ад беларускай пісьменьніцкай эміграцыі ў Міжнародным ПЭН-клюбе.

Празь пераасэнсаваньне Крушынам жыцця ў Вольным Сьвеце мянялася ягонае асабістае творчае разьвіцьцё як творцы, мяняліся зьмест і эстэтычны лад ягных вершаў. У многіх паэтычных зборніках Рыгора Крушыны паўстае вобраз выгнанца – ужо вольнага чалавека, паэта, але асобы засмучонай, з параненым сэрцам. І ўсюды, дзе б ён ні быў, у якія б краіны ні прыводзіў яго вандроўніцкі лёс, у душы паэта дамінавалі балючыя ўспаміны й тэмы, спалучаныя з Бацькаўшчынай. Эміграцыя, з аднаго боку, зьняла кайданы з ягонага творчага слова, а з другога – напоўніла сэрца тугою і смуткам па сваяках, родных мясьцінах, што былі вымушана пакінутыя. Гэтыя тэмы й настроі адлюстраваліся ў шматлікіх вершах Рыгора Крушыны, і тыя вершы былі сугучныя думкам і пачуцьцям тысячаў раскіданых па ўсім сьвеце беларусаў, што не маглі тады ўзьняцца і паляцець у родны край, паняволены расейскім камунізмам.

Рыгор Крушына са шчырай любоўю пісаў пра пакінутую Бацькаўшчыну, якая здалёк паўставала ў арэоле сьвятасьці й пакутніцтва. Матыў Бацькаўшчыны можна прасачыць ва ўсіх ягоных паэтычных цыклях. Узьнёслым паэтычным словам Рыгор Крушына ўславіў жаночую прыгажосьць і каханьне, адцеміў хараство розных краінаў сьвету, дзе яму давялося пабываць, і ўсё гэта было перададзена выдатнай, мілагучнай беларускай мовай.

Рыгор Крушына спадзяваўся, што ягоную творчасьць ацэняць на далёкай Бацькаўшчыне, але так і не дачакаўся вяртаньня яе незалежнасьці. Рыгор Крушына памёр у 1979 годзе, і пахаваны ў Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі. Творы Рыгора Крушыны выйшлі ў незалежнай Беларусі ў Менску: "Цымбаліст" (2004), "Выбраныя творы" (2005).

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Goodbye America, goodbye

Канец чарговага месяца. Рэдактар Марат Клакоцкі чакае новую “Галгатню”. Сядаеш за кампутар, а нешта ня пішацца. Нататак яшчэ многа, ідзяў яшчэ шмат – яны, у прынцыпе, невычарпальныя, як і сама Амэрыка. Але думкі цяпер не пра яе...

Ці не нагода гэта для таго каб спыніцца? Думаю, лепшай і не прыдумаеш. Напісалася ўжо столькі, што можна і пра сьціплую кніжачку падумаць, сабраць усё пад адной вокладкай. Ніхто ж, здаецца, на беларускай мове столькі пра амэрыканскую рэчаіснасьць не пісаў. Пэўна, мала хто дазваляў сабе такія выхадкі, іронію, сарказм, зьедлівасьць у адносінах да таго абсурду, у якім мы жывем ня толькі ў Амэрыцы, але ўжо і ва ўсім сьвеце. Ці то Амэрыка стала сьветам, ці сьвет стаўся Амэрыкай – халера яго ведае.

Вялікі дзякуй рэдактару і спагадлівым чытачам “Вестак і Паведамленьняў”, што сачылі за маімі штомесячнымі нязіраньнямі. Да вас я абавязкова вярнуся. Толькі ў іншай форме.

З Амэрыкай я не разьвітваюся. Віза ў мяне да 2026 году. Жартую. Проста ў мяне там дарагія сябры. У мяне там цёплыя ўспаміны. Хай прагучыць трохі патасна – але там засталіся мае дарогі. Амэрыка, нягледзячы ні на што, цудоўная.



Заўсёды, калі раней уяўляў сабе апошнюю “Галгатню”, то думаў, што напішу пра “tumbleweed”. Гэта, бадай, адзін з найбольш устойлівых вобразаў маёй улюбёнай часткі Амэрыкі. Але што пра яго пісаць. Лепш сказаць словамі песьні: “You go back, Jack, do it again, wheels turnin’ ‘round and ‘round. You go back, Jack, do it again... Перакаці поле ды зрабі гэта ізноў.

**Віталь ВОРАНАЎ**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

А. Агееў ..................60
В. Едзіновіч .............60
А. Садоўскі ...............60

**Шчыры дзякуй!**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** ***Viktar Yedzinovich.***

---

**На момант друку гэтага нумару час і месца кастрычніцкага сходу яшчэ не былі вызначаныя. Сачыце за абвесткамі.**

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

---

*Паважаныя* ***Ю. Акуліч, К. Буяр, Я. Новікава, С. Сіткевіч,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня Весткі й Паведамленьні :**

У. Бялабоцкі ..............30
А. Садоўскі ................30
В. Якімовіч .................30

**Усім шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***

*Падпіску таксама можна афарміць на сайце* ***www.e-krama.com***